Народная газета

# ЗАМЕЖЖА

*ІТАР-ТАСС * ІНТЭРФАКС * НАРОДНАЯ ГАЗЕТА *

*Пульс дня*

## Ельцын папрасіў прабачэння ў японцаў

**Прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын на сустрэчы з імператарам Японіі Акіхіта афіцыйна папрасіў прабачэння ў японскага народа за "бесчалавечныя дзеянні, якія былі здзейснены ў адносінах да японскіх ваеннапалонных", інтэрніраваных на тэрыторыі былога СССР у 1945 годзе і ў наступныя гады.**

## Аліеў прысягнуў. На Канстытуцыі і Каране

**Прэзідэнцкую прысягу даў на Канстытуцыі Азербайджана і на Каране Гейдар Аліеў, выбраны тыдзень назад кіраўніком азербайджанскай дзяржавы.**

Выступаючы на цырымоніі інаугурацыі, прэзідэнт як галоўныя задачы вызначыў умацаванне незалежнасці Азербайджана, павышэнне дабрабыту насельніцтва. У сферы эканомікі кіраўнік дзяржавы аддае перавагу рэформам, накіраваным на стварэнне цывілізаванага рынку.

## На сабе і на пацуках

**Пачаўся перадстартавы адлік часу перад запускам касмічнага карабля шматразовага выкарыстання "Калумбія".**

Гэта будзе самы працяглы палёт касмічнага "чаўнака" ў гісторыі амерыканскай касмічнай праграмы. Ён працягнецца 14 сутак. Маючы адбыцца палёт "Шатла" поўнасцю прысвечаны біямедыцынскім даследаванням. Сем членаў экіпажа "Калумбіі" правядуць у агульнай складанасці 14 лабараторных эксперыментаў — восем на сабе і шэсць на пацуках.

## Венгрыя мяняе арыентацыю?

**Важнейшая мэта знешняй палітыкі Венгрыі на сучасным этапе — ліквідацыя "ўсходняй залежнасці" і пераарыентацыя краіны на Захад.**

Аб гэтым заявіў міністр замежных спраў ВР Геза Есенскі.

## Калі ў "сяброў" няма згоды...

**Шэраг па-экстрэмісцку настроеных палесцінскіх групіровак і арганізацый аб'явілі байкот скліканай старшынёй выканкама АВП Ясірам Арафатам сесіі народнага савета Палесціны (парламент у выгнанні), якая павінна была ратыфікаваць дагавор з Ізраілем.**

Палесцінскі фронт народнай барацьбы і Палесцінскі фронт вызвалення абвінавацілі кіраўніцтва АВП у здрадзе "агульнапалесцінскай справе" і заклікалі астатнія палесцінскія групоўкі байкатаваць сесію НСП.

❑

**Цэнтральны савет Арганізацыі Вызвалення Палесціны (АВП) ратыфікаваў на сваім пасяджэнні ў туніскай сталіцы палесціна-ізраільскае пагадненне аб абмежаванай палесцінскай аўтаноміі ў Іерыхоне (заходні бераг ракі Іардан) і ў сектары Газа.**

## Ад імя ААН

**Дзяржаўны сакратар ЗША Уорэн Крыстафер запатрабаваў ад ваенных улад Гаіці не ствараць перашкод высадцы ў Порт-А-Прэнсе амерыканскага кантынгенту і яго ўдзелу ў "мірнай місіі" Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.**

Калі цяперашнія правіцелі карыбскай дзяржавы "не выканаюць сваіх абавязацельстваў перад міжнародным супольніцтвам і гаіцянскім народам", гаворыцца ў распаўсюджанай тут заяве кіраўніка дзярждэпартамента, ім пагражаюць эканамічныя санкцыі з боку ААН.

## "Залатая антэна" настроена на забаўляльную хвалю

**"Залатая антэна" — міжнародны фестываль тэлевізійных музычна-забаўляльных праграм адкрыўся ў балгарскім горадзе Благоеўградзе.**

Сваю прадукцыю тут паказваюць дзяржаўныя і прыватныя тэлестудыі амаль 30 краін. Усяго на конкурс прадстаўлена каля ста праграм, прызначаных для дарослых і дзяцей. Фестываль прадоўжыцца да 17 кастрычніка.

# Відаць, пошук пазазямных цывілізацый спыніцца

Роўна год назад, калі амерыканцы адзначалі 500-ю гадавіну адкрыцця Амерыкі Хрыстафорам Калумбам, НАСА аб'явіла аб пачатку ажыццяўлення грандыёзнай праграмы пошуку сігналаў пазазямных цывілізацый. Яна была разлічана на 10 гадоў, і меркавалася, што будзе каштаваць прыкладна 100 мільёнаў долараў. Аднак напярэдадні Дня Калумба 1993 года па гэтай праграме быў нанесены жорсткі ўдар: члены дарадчай камісіі сената і палаты прадстаўнікоў у мэтах скарачэння бюджэтнага дэфіцыту краіны прынялі рашэнне спыніць яе фінансаванне. І хоць кангрэсу прадстаіць яшчэ канчаткова зацвердзіць бюджэт, афіцыйныя асобы НАСА не сумняваюцца, што цуда на гэты раз не адбудзецца. Адзінае, што выдаткавалі ім заканадаўцы, — гэта 1 мільён долараў на згортванне праграмы. Цяпер апошняя надзея ў астраномаў, якія ўдзельнічаюць у пошуку сігналаў разумнага жыцця, — паспрабаваць як мага хутчэй знайсці прыватных спонсараў, накшталт тэхаскага мільярдэра Эдварда Баса, які фінансуе эксперымент "Біясфера-2" у Арызоне.

"Гэта гіганцкі крок назад, — пракаменціравала рашэнне заканадаўцаў астраном з касмічнага навукова-даследчага цэнтра Эймса (штат Каліфорнія) Джыл Тартэр. — У НАСА пайшло 20 гадоў і 50 мільёнаў долараў на тое, каб распрацаваць звышадчувальныя радыёпрыёмнікі, здольныя прымаць сігналы з космасу на мільёнах розных частот. Цяпер жа, калі абсерваторыі не атрымаюць грошай, усе гэтыя намаганні будуць непатрэбнымі". За першы год ажыццяўлення праграмы амерыканскія вучоныя, выкарыстоўваючы самыя магутныя на сённяшні дзень антэны і радыётэлескопы НАСА, у прыватнасці антэну ў Голдстоўне (штат Каліфорнія) і радыётэлескоп у Арэсіба (Пуэрта-Рыка), даследавалі каля 1.000 зорак, якія былі выбраны таму, што падобныя на наша сонца і могуць мець планеты, якія круцяцца вакол іх. Паводле слоў газеты "Нью-Йорк таймс", прыкладна 25 атрыманых з космасу сігналаў "ўяўляюць цікавасць для вучоных і патрабуюць далейшага аналізу і назірання". У наступным годзе планавалася пашырыць пошук, падключыўшы тэлескопы ў Аўстраліі, Аргенціне, Індыі і Расіі.

На думку Томаса Макдонаў, спецыяліста, які ўдзельнічаў у не такой і маштабнай праграме пошуку пазазямных цывілізацый пад эгідай Таварыства па даследаванню планет, планеты, магчыма, ёсць у кожнай дзесятай з 400 мільярдаў зорак нашай галактыкі — Млечнага Шляху. А разумнае жыццё — толькі на 4 мільёнах планет. Аднак многія цывілізацыі, відаць, расцвіталі, а потым гінулі, таму, лічыць Макдонаў, у нашай галактыцы налічваецца каля 4000 сусветаў з цывілізацыямі, якія мы можам выявіць непасрэдна зараз.

**Аляксандр ПАХОМАЎ.**

*Эўрыка!*

## Веласіпед з электрарухавіком

Калі ў вас няма ўжо сіл, каб круціць педалі веласіпеда, уключыце мікракамп'ютэр. Па яго камандзе на дапамогу прыйдзе электрарухавік.

Размова ідзе пра японскіх веласіпедыстаў. Кампанія "Ямаха матор" на працягу 10 гадоў стварала двухколку, якая рухаецца з дапамогай камбінацыі мускульнай энергіі чалавека і механічнай энергіі рухавіка. Ён устаноўлены пад сядзеннем веласіпеда, які важыць 31 кілаграм, у той час як сярэдняя маса звычайнага — 18.

## Суперакуляры



Арыгінальныя акуляры для прагляду тэлеперадач вынайдзены двума венгерскімі інжынерамі. У аправу ўманціраваны два мініяцюрныя тэлевізары, а адлюстраванне накіроўваецца ў вочы пры дапамозе двух маленькіх люстэркаў. Памеры апошніх не перашкаджаюць агляду, дазваляючы займацца адначасова яшчэ і іншымі справамі. Акуляры могуць быць свабодна падключаны да тэлевізійнага цьюнера, прымаючага прыстасавання, відэакамеры і нават камп'ютэра. Гэта забяспечвае шырокія магчымасці іх выкарыстання ў галіне медыцыны і прамысловасці, вылічальнай ваеннай тэхнікі. Каляровае адлюстраванне суправаджаецца стэрэагукам.

## У Пецярбургу спынілі адлік "Секунд"

**"Паколькі "Секундам" няма месца на Пецярбургскім тэлебачанні, яны будуць выходзіць у іншых рэгіёнах", — заявіў у інтэрв'ю карэспандэнту ІТАР—ТАСС шэф-рэдактар праграмы навін "600 секунд" Аляксандр Няўзораў.**

Ён удакладніў, што шэраг дагавораў аб гэтым ужо падпісаны з некаторымі прэзідэнтамі рэспублік, якія ўваходзяць у склад РФ, кіраўнікамі адміністрацый краёў і абласцей. Поўныя складанасці будзе ўяўляць падрыхтоўка "600 секунд", таму што калектыў рэдакцыі не зможа карыстацца тэхнікай, мантажнымі і студыямі тэлерадыёкампаніі "Пецярбург-5 канал".

У сваю чаргу і Пецярбургскае тэлебачанне не мае намеру развітацца з Аляксандрам Няўзоравым. Яму прапанавалі паўгадзіны эфіру ў тыдзень для аўтарскай перадачы, якая павінна выходзіць у запісе з папярэднім яе праглядам. Няўзораў намераны прыняць гэту прапанову, калі "будзе знята падцэнзурнасць праграмы".

Што датычыцца маючых адбыцца выбараў, то Аляксандр Няўзораў вылучаць на іх сваю кандыдатуру не збіраецца. Аднак, спаслаўшыся на шматлікія просьбы сваіх прыхільнікаў, ён сказаў, што, відаць, будзе балаціравацца ў дэпутаты Дзяржаўнай думы.

## Успышка энцыфаліту ў Індыі

**Пяцьдзесят чалавек памёрлі за апошні месяц у акрузе Крышна (індыйскі штат Андхра-Прадзеш) у выніку вострай успышкі энцыфаліту — запалення галаўнога мозгу.**

На думку медыкаў, прычыны эпідэміі — у антысанітарных умовах жыцця асноўнай масы насельніцтва, адсутнасці чыстай пітной вады. Акрамя таго, пераносчыкамі смяротна небяспечнага віруса з'яўляюцца камары, якіх асабліва шмат цяпер, пасля моцных летніх дажджоў.

## Дэпутаты вар'яцеюць

**У залатую жылу ледзь не ператварылі звычайны тэлефонны кабель у гарадскім савеце Ндолы — адміністрацыйнага цэнтра правінцыі Медны Пояс у Замбіі.**

Разважаючы над тым, як папоўніць гарадскую казну, якая катастрафічна апусташаецца, дэпутаты прыйшлі да простага і радыкальнага рашэння: абкласці данінай тэлефонную службу. У аднагалосна прынятай рэзалюцыі супрацоўнікам сувязі было прапанавана заплаціць па 500 мільёнаў квач (каля 1,5 мільёна долараў) за кожны кіламетр тэлефоннага кабелю, які праходзіць па тэрыторыі горада.

"Вар'яцкая ідэя, — жахнуўся міністр транспарту і сувязі Замбіі Эндру Кашыта. — Якія б доказы ні прыводзіліся ў яе абарону, урад ніколі не падтрымае такога спосабу зарабіць грошы". Ад рашэння савета ў першую чаргу пацерпяць гараджане, паколькі тэлефоннай кампаніі не застанецца нічога іншага, як у шмат разоў павысіць тарыфы, адзначыў міністр.

# Феномен качающегося кресла,

## или О том, как уходят в отставку в Германии

**Игорь ОСИНСКИЙ, собственный корреспондент "Народной газеты" в ФРГ.**

**Из 19 министров, составивших первое правительство объединенной Германии, спустя 2,5 года сохранили за собой посты лишь девять. Остальные вынуждены были по разным причинам уйти. По мнению политологов, такой "кабинетной чехарды" в истории страны еще не было.**

**Факт, бесспорно, интересный. Но еще удивительнее его подтекст: подавляющее большинство министров-неудачников лишились своих кресел из-за разоблачительной критики в средствах массовой информации.**

Достаточно перелистать ведущие газеты и журналы ФРГ, чтобы убедиться — они не горластее белорусских или российских. Но подлинная сила средств массовой информации измеряется не в децибелах. В Германии даже слово, произнесенное журналистами "шепотом", громом отдается "наверху". Вот несколько конкретных примеров.

В марте 1992 года пресса и телевидение сообщили о том, что, несмотря на запрет бундестага, 15 западногерманских танков "Леопард" были поставлены в Турцию. Спустя несколько дней федеральный министр обороны Герхард Штольтенберг заявил об уходе в отставку, возложив на себя политическую ответственность за происшедшее.

5 мая того же года в связи с подозрениями в шпионской деятельности лишилась должности федеральный министр здравоохранения Герда Хассельфельд.

А 18 мая состоялось прощание с блистательным Гансом-Дитрихом Геншером, возглавлявшим министерство иностранных дел ФРГ более 18 лет. О подлинных причинах этой неожиданной отставки нет полной ясности и сегодня. Однако многие политологи склоняются к тому, что решающую роль сыграла поспешность в признании независимости республик бывшей Югославии, которую пресса расценила как подливание масла в "балканский огонь".

Неблагоприятный имидж приобрел в связи с событиями в Югославии и федеральный министр связи Кристиан Шварц-Шиллинг. И тоже поспешил покинуть команду Коля, не дожидаясь правительственной "разборки".

Начало нынешнего года ознаменовалось скандалом, в центре которого оказался влиятельный федеральный министр экономики Юрген Меллеманн. Журналисты уличили его в злоупотреблении служебным положением—передаче родственникам доверительной правительственной информации.

Кризис восточногерманского сельского хозяйства, о чем пресса писала много и резко, стал причиной смещения отраслевого министра Игнаца Кихле.

Федеральный министр транспорта Гюнтер Краузе "погорел" на аферах, связанных с недвижимостью.

И, наконец, совсем недавно на железнодорожном вокзале провинциального мекленбургского городка Бад Кляйнен произошла трагедия, повлекшая за собой немедленную отставку федерального министра внутренних дел Рудольфа Зайтерса. Спустя несколько дней, уличенный прессой в неискренности и откровенной лжи, был отправлен на пенсию генеральный прокурор ФРГ Александер фон Шталь. Об этой истории стоит рассказать чуть подробнее, так как в ней, как в капле воды, отразилась суть германской демократии.

❑

Полиция давно уже вела охоту за террористами из организации "Красные бригады" Биргит Хогефельд и Вольфгангом Грамсом, подозреваемыми в причастности к убийству политических деятелей. Генеральный прокурор дал санкцию на их арест. Удалось установить, что в конце июня эти два преступника приедут в Бад Кляйнен для встречи с сообщниками. К участию в операции привлекли группу "спецназа", прославившуюся многими дерзкими и к тому же бескровными акциями. Все, казалось бы, было подготовлено безупречно. 54 переодетых в штатское сыщика в течение двух суток с завидным профессионализмом разыгрывали на вокзале сценки из жизни пассажиров, терпеливо поджидая вояжеров. Не менее искусно маскировали себя и несколько проявивших поразительную осведомленность репортеров. Наконец долгожданный час настал. Террористы появились на перроне 27 июня в 12.54. От захвата на публике пришлось отказаться — могли пострадать пассажиры. Команда "брать" прозвучала в тот момент, когда преступники оказались в подземном туннеле. Но произошло непредвиденное. Каким-то непостижимым чутьем Вольфганг Грамс почувствовал опасность и успел выскочить наверх. Увидев полицию, разрядил в нее магазин пистолета, смертельно ранив одного из нападавших. В ответ прозвучали автоматные очереди. Террорист был убит.

Официальная версия, подготовленная прокуратурой, не добавляла славы полиции, однако не вызывала и серьезных нареканий. Скандал разразился спустя несколько дней. Еженедельник "Шпигель" опубликовал собственное расследование, из которого ясно, что во время перестрелки террорист был всего лишь ранен. Добили его, коленопреклоненного, в упор — выстрелом в висок. Так утверждает свидетель — киоскерша Джоанна Барон. "Убийство г-на Грамса равнозначно экзекуции", — подвел итоги журнал. (Кстати, позднее эксперты подвергли это предположение сомнению.)

Сразу же после сенсационной публикации "Шпигеля" министр внутренних дел подал прошение об отставке. "Мне не в чем упрекнуть себя лично. Я не отдавал приказаний, которые можно было бы расценить сегодня как ошибочные, не препятствовал предоставлению общественности исчерпывающей информации — скорее наоборот, сделал все необходимое, чтобы следствие велось невзирая на чины и лица. Однако кто-то же должен взять на себя политическую ответственность. В противном случае нашей демократии был бы нанесен моральный урон, чего я как министр допустить не могу и не хочу", — заявил Зайтерс.

Напоминая о безупречной репутации этого политика, о большом личном вкладе в объединение Германии и борьбу с преступностью, пресса расценила его решение как проявление честности и похвальной щепетильности...

Генеральный прокурор Александер фон Шталь попробовал защищаться. Но, давая неполные, противоречивые показания, был уличен журналистами. Во избежание дальнейших осложнений министр юстиции быстренько спровадила его в отставку.

Помимо десяти министров, о которых я рассказал, "жертвами" журналистов стали в последнее время и многие другие видные германские политики. Ушел, например, со всех своих постов председатель СДПГ, премьер-министр земли Шлезвиг-Гольштейн Бьерн Энгхольм — стало известно, что много лет назад он дал на суде фальшивые показания. Лишиться кресла здесь можно за незначительную недоплату налогов, ремонт собственного дома за государственный счет или использование служебного транспорта домочадцами, за проведение семейного отдыха на деньги частных компаний и любовные авантюры... Словом, за все то, что свидетельствует о непорядочности, нечистоплотности.

Интересно, существует ли для наших политиков тот моральный императив, пренебрежение которым означает неизбежный крах карьеры? Ведь даже будучи уличенными в самых тяжких грехах, чиновники у нас никогда не покидают уютных кресел по доброй воле, ссылаясь на то, что посадил их сюда народ. И воздействовать на них извне абсолютно невозможно — у нас как не было, так и нет реального механизма замены обанкротившихся политиков. Если не считать, конечно, "матроса Железняка"...

❑

Говоря о германском опыте, я определил бы его как „феномен качающегося кресла". Восходя на правительственный помост, избранники немецкого народа не забывают ни на миг, что отныне не только их политическая деятельность, но и личная жизнь будет под постоянным контролем общественности, глазами и ушами которой являются средства массовой информации. Борясь в условиях жесткой конкуренции за собственное выживание, они ищут изо дня в день сенсации. Политики для журналистов, как цветки для пчелы. За их счет всегда можно поживиться. Того, кто вольно или невольно спотыкается, не щадят. Чаще всего бьют наотмашь, словно соревнуясь. Вопрос о том, моральна ли такая пресса, требует особого разговора. Но ее право высказывать свое суждение обо всех без исключения является в ФРГ таким же незыблемым, как и право на частную собственность.

"Четвертая власть" занимает в системе германской демократии столь же законное место, как и власти законодательная, исполнительная, судебная. Попытки призвать журналистов "к порядку", запретить или хотя бы помешать им объективно освещать то или иное событие выглядели бы здесь столь же нелепо, как, скажем, умышленный срыв заседания суда или парламента.

Гармоничное взаимодействие всех ветвей власти позволяет избегать неоправданного дозирования информации, канонизации высших должностных лиц. Замена обанкротившихся политиков происходит быстро, безболезненно для общества, без постыдного цепляния за ускользающий из рук портфель. И в этом нет ничего удивительного. Ведь на Западе должность не "кормит". Во всяком случае, не дает сколь-либо существенных привилегий по сравнению с бизнесом, которым занимается подавляющее большинство чиновников до и после государственной службы. Оставляя занимаемый пост, никто из них не страшится бедности, безвестности, бесправия. Скорее даже наоборот, не обремененные официальными обязанностями, политики-бизнесмены ведут более спокойную и благополучную жизнь.

Высокий доход, престижная квартира, служебные дачи и автомобиль, продовольственный паек, "лечкомиссия" — все это сугубо наши, сотню раз преданные анафеме, но так и не изжитые до сих пор социалистические атрибуты власти. Отечественного происхождения и "теория незаменимых" — пересаживание проштрафившейся номенклатуры из одного кресла в другое.

Удельный вес жуликов среди политиков во всем мире примерно одинаков. Разница лишь в том, что в условиях развитой буржуазной демократии выводят их на чистую воду значительно быстрее; что западное общество не столь терпеливо — не позволяет бесталанным и бессовестным политиканам ставить на себе дикие эксперименты, наподобие тех, что переживают сегодня народы бывшего Советского Союза.

❑

Секрет не декларируемой, а подлинной свободы прессы ФРГ — в ее правовой и материальной независимости от трех других ветвей власти.

Даже в тех случаях, когда речь идет об интересах большой политики, никому в правительстве или бундестаге не взбредет в голову вызывать редакторов "на ковер", устраивать профилактические нахлобучки. Немецким газетам и журналам нельзя приказать молчать — об этом их можно только просить. Так случилось, например, в период идеологического противостояния. Ведущим еженедельникам "Штерн" и "Шпигель" стало известно о том, что ГДР продает Западной Германии за твердую валюту своих политических узников. Сенсация обещала произвести небывалый фурор, после которого торговлю людьми пришлось бы, конечно, прикрыть. В доверительной беседе с владельцами изданий власти попросили, во имя интересов тысяч политзаключенных, повременить с публикацией. Их доводы оказались убедительными. И подготовленные к печати материалы увидели свет лишь после объединения Германии.

Исключено использование и "финансовой плети". Подавляющее большинство средств массовой информации ФРГ принадлежит акционерным обществам и потому не боится лишиться за непослушание правительственной "кормушки".

События в Бад Кляйнене, о которых я рассказал, убедительно продемонстрировали умение немецких журналистов заставить власти слушать себя.

❑

Конечно же, я писал эту статью с мыслью о нашей действительности. С робкой надеждой на то, что, выбирая модель правового государства, наши законодатели позаботятся о том, чтобы оградить его, а значит, и всех нас, от засилья бездарных и бесчестных политиков. Штудируя на Западе секреты демократии, не забудьте позаимствовать у немцев их качающееся кресло для чиновников!

*Откровенно*

# О чем мечтает "просто Валя"

Совсем недавно на меня свалилось море проблем. Я осталась с 13-летней Юлей одна. Муж ушел к другой женщине. Есть ради кого жить — у меня дочь. Но я хочу разбогатеть, и все тут. Утром встаю с этой мыслью и ночью засыпаю под нее. Я, как Мария Лопес, хочу иметь свою машину. Почему там, на Западе, легко можно взять в кредит деньги — тысячи, миллионы, а у нас нет? Смотрю фильм и диву даюсь. Марии легко доказать, что она свободная женщина. Я хочу иметь кафе, машину, аппараты для изготовления воздушной кукурузы, сладкой ваты, мороженого, жаровню для кофе. Ты, "Народная", наверняка догадалась — хочу открыть молодежное кафе у нас в совхозе. Хочу доказать, что не только существует "просто Мария", но есть и "просто Валя". Для всего этого нужны деньги. Пошла работать в СДК худруком, спасибо, что разрешили работать на нескольких работах. А то несколько лет назад это было антизаконно. Но только убиваю свое здоровье, а денег как не было, так и нет. Спасибо моим родителям, которые помогают, держат худобу. Я не остаюсь с Юлей в стороне, помогаем чем можем, а результат... В этом году посадили 60 соток картофеля — вот, думаю, разбогатею. Ан нет, не уродил.

Я знаю, что кто-то может съехидничать, мол, много захотела, насмотрелась фильмов и тоже богатой быть желает, а забыла, что богатые тоже плачут. Милые мои, надоело по 7 лет носить зимние сапоги, по 10 лет зимнее пальто. Хочу, чтобы хоть немного, но пожить так, как живут женщины в том мире, где они себя еще чувствуют женщинами. Хочу иметь туфли под цвет своего платья, хочу дать будущее своей дочери и при этом ни к кому в долги не залезать. Подскажи, "Народная", где взять миллион?

**Валентина СТРЕХА, учительница.**

*Тему подсказал звонок*

# Мы — не рабы?

**Андрей АРШАНСКИЙ**

**В редакции раздался звонок. Часто приходится слышать жалобы и вопросы читателей — газета для многих становится последней инстанцией в поисках правды. И на этот раз позвонивший рассказал историю, которая по своей сущности абсурдна. Произошла она недавно в одной из минских школ.**

...Осень в этом году выдалась необычайно холодной. Резкое понижение температуры в сентябрьские дни, думаю, ощутили все. Отапливать помещения у нас начинают по графику, невзирая на погоду. Температура в классах была не намного выше температуры за окнами, и учащиеся выходили из положения по-своему. Бодрились мальчишки — как же показать, что тебе холодно, перед девчонками? Те же, не долго думая, надели поверх школьной формы кофточки — тепло и удобно.

И здесь начинается нечто малопонятное. Пришел классный руководитель. Оглядев класс, тоном, не терпящим возражений, учительница вынесла быстрый приговор — на учащихся должна быть школьная форма, и только она. Никаких посторонних вещей! Следовательно, вы можете мерзнуть, но режим, установленный педсоветом школы, свят и пересмотру даже в ничтожной части не подлежит.

Вот такой невеселый эпизод из сегодняшней школьной действительности. Рассказывая о нем, я никоим образом не хочу бросать обвинения всей системе образования, нет. Решением Министерства образования рассмотрение очень широкого круга вопросов передано непосредственно школам. Теперь сами педсоветы определяют, оставлять ли школьную форму как единственный вид одежды в школе или разрешить многообразие. Выбор в пользу формы мотивируется так: в одном классе собраны дети из семей с разным достатком, и те, кто победнее и не может позволить себе приобрести красивую современную одежду, могут сильно комплексовать по этому поводу. Аргумент серьезный. Но не приносятся ли в угоду ложно понимаемым интересам социальной справедливости интересы отдельной личности? В конце концов, вот уже несколько лет мы живем в стране, называющей себя свободной. Школа — это место, где ребенок становится гражданином. И здесь нет мелочей. Стиль одежды подчеркивает индивидуальность, раскрывает характер (хотя и это нельзя абсолютизировать — ведь по одежке только встречают...). И когда эта индивидуальность подавляется из года в год... На каком основании некто с дипломом пединститута может решать за девушку или юношу, что ему носить в школе? Педагог считает, что ты должен ничем не выделяться из массы своих сотоварищей. Но учащиеся, особенно старших классов, являются личностями со сформировавшимся мировоззрением. И подчиняться ограничению твоей свободы, твоего права на частную жизнь — разве это не унизительно? А ведь мы хотим вырастить гармонично развитого человека!

Учительница, морозящая в классе детей, действовала в рамках школьного "закона". Как действуют и те, кто требует во имя той же "социальной справедливости" иметь одинаковую спортивную форму. При этом никому нет дела до того, как мать нескольких детей будет кроить и урезать семейный бюджет, чтобы вдобавок к уже купленной приобрести новую форму — необходимого цвета. А ведь заботятся якобы о них, о детях из семей с малым доходом.

Педсовет школы сейчас сам определяет свой "внутренний устав". Понимание того, что учебное заведение — не казарма, есть пока не у всех. Будем надеяться — пока?

*Эх, рынак!..*

# Батарэі ацяплення б'юць прамой наводкай па кішэні

Законам "Аб дзяржаўным бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1993 год прадугледжана, што насельніцтва павінна аплачваць 25—30 працэнтаў затрат па прадастаўленню жыллёва-камунальных паслуг. Дзейнічаўшыя да 1 кастрычніка тарыфы кампенсавалі яго прадпрыемствам за падачу вады 8,3 працэнта затрат, за каналізацыю — 5,8, за ацяпленне і гарачае водазабеспячэнне — 6,5 працэнта. Кватплата кампенсавала толькі 1,2 працэнта затрат арганізацый па эксплуатацыі жыллёвага фонду.

Рост цэн на паліўна-энергетычныя, іншыя матэрыяльна-тэхнічныя рэсурсы ўскладніў фінансавае становішча жыллёва-камунальных прадпрыемстваў. У сувязі з гэтым было прапанавана павысіць з 1 кастрычніка тарыфы для насельніцтва па водазабеспячэнню, ацяпленню, падачы гарачай вады ў 3,5 раза, каналізацыі — у 5,5, аплаце жылой плошчы — у 10 разоў. Такім чынам, з гэтага месяца за адзін кубічны метр вады з аднаго жыхара будзе брацца 15 рублёў 12 капеек пры сабекошце 52 рублі, а за пропуск такой жа колькасці сцёкаў — 14 рублёў 96 капеек пры сабекошце 46 рублёў. За гарачую ваду з аднаго чалавека неабходна ўплачваць 425 рублёў 25 капеек пры сабекошце 1860 рублёў, за ацяпленне аднаго квадратнага метра жылплошчы — 141 рубель 75 капеек пры сабекошце 620 рублёў. Кватэрная плата складзе 13 рублёў 20 капеек за адзін квадратны метр жылой плошчы пры сабекошце 102 рублі.

З улікам павышэння тарыфаў на газ і электрычнасць у ацяпляльны сезон месячная плата за пражыванне арыенціровачна складзе за аднапакаёвую кватэру 20-ці квадратных метраў жылой плошчы для двух жыхароў 6500 рублёў, за двухпакаёвую 30-ці квадратных метраў для трох чалавек — 9800, а за трохпакаёвую 43-х квадратных метраў для чатырох жыхароў — 13000 рублёў.

**Белінфарм.**

